


**АЛХІМІЯ**

*Мяне цікавіла алхімія калісьці*
*Не тым, што абяцала скарбы.*
*За іх не купіш сонца ў сіняве,*
*Світальнага напеву жаўрука,*
*Бярозавага шэлесту пад вокнамі*
*Ці ветру нарачанскага, з якім*
*За плугам я хадзіў*
*І грэўся ля начлежнага кастра.*

*Таму я, вывучаючы алхімію,*
*Найбольш увагі аддаваў сакрэтам:*
*Як здабываць з зямлі хлеб і віно,*
*А з хлеба і віна — дружбу,*
*А з дружбы — любоў,*
*А з любві — песню.*

**Максім Танк**


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 45 (1028) ГОД XX 9 ЛІСТАПАДА 1975 г. ЦАНА 60 гр.


ПРА МІНСКІ ПАЛАЦ ПІЯНЕРАЎ

чытайце на ст. 2

**Выступае хор і аркестр Палаца піянераў.**



## ЗЯМЛЯ — КАРМІЦЕЛЬКА

Спрадвеку зямля ў розных народаў карысталася асаблівай пашанай. Старажытны Антэй толькі тады адчуваў сваю непакорную сілу, калі знаходзіў апору на зямлі. Нашыя продкі таксама адносіліся да зямлі, як да чагосьці святога. Яны гаварылі: **зямля — маці, зямля — карміцелька, зямля — дар божы.** Лічылася грэхам, калі хто яе паганіў, калі адносіўся да зямлі зняважліва, з пагардай. Сведчаць аб гэтым народныя абрады, песні, казкі і прымаўкі.

Зямля была тады адзінай крыніцай жыцця. Яна патрабавала назойлівай, знясільваючай працы, але ўзамен давала надзею на пражыццё, бо рэдка які селянін уяўляў сабе, што можна жыць без зямлі. Гэта толькі паны жылі ў гарадах, але яны карысталіся чужой працай.

Міф „панскага" жыцця ў горадзе з магнітнай сілай прыцяжэння дзейнічае яшчэ і па сённяшні дзень. Ва ўмовах народнай улады гэты міф стаў вельмі рэальнай жыццёвай праблемай, якую няцяжка прымяніць на практыцы. Знішчаныя вайной гарады патрабавалі рук да працы, а вёска не мела чым утрымаць сваіх працавітых жыхароў. Здаўна нашы сяляне ведалі адно толькі працу ад світання да цямна, іх жонкі не маглі модна адзецца і адпачыць, іх дзеці не ездзілі летам у лагеры, бо трэба было памагаць бацькам пры ўборцы сена, збожжа і бульбы. На кніжкі, на паглыбленне сваіх ведаў зусім не аставалася часу. Мне самому здаралася чытаць кніжку, трымаючы яе паміж ручкамі плуга. Так я, памятаю, прачытаў цэлую *„Аповесць аб сапраўдным чалавеку"* Барыса Палявога. Вядома, пра якасць майго арання лепш ужо не гаварыць. Было гэта ў 1949 г. Марыў я тады толькі аб адным: каб як мага хутчэй закончыць школу і вырвацца з вёскі. Горад здаваўся мне — і не толькі мне — абяцаным, біблейскім раем. Так мы думалі і так думаюць усе тыя

Працяг на стар. 4



## БОЛЬШ ЛЕПШ ХУТЧЭЙ!

VII ZJAZD

З дырэктарам васьмікласнай школы ў Семяноўцы **Уладзіславам Кічко** мы сустрэліся ў часе асенніх канікул. Вялікі школьны будынак звінеў дзіцячымі галасамі, што пад наглядам настаўнікаў малявалі падлогі, ладкавалі абсталяванне або займаліся нарыхтоўкай навучальных дапаможнікаў. Старшакласнікі пад кіраўніцтвам настаўнікаваліся павятовыя фэстыны БГКТ, у іх падрыхтоўцы прымалі ўдзел усе мясцовыя арганізацыі, дарослыя і моладзь, сельгаспурток. І былі яны для ўсяго наваколля вялікім народным святам. У 1969 годзе У. Кічко быў прыняты ў рады ПАРП, а ў студзені бягучага года пярвічная партыйная арганізацыя абрала яго сваім сакратаром.

— У Семяноўцы ў асноўным жывуць т.зв. сяляне-рабочыя, яны працуюць на чыгунцы і там належаць да пярвічных партыйных арганізацый. Наша мясцовая партыйная арганізацыя складаецца з 16 членаў, у тым ліку 2 кандыдатаў. Палова нашых членаў — гэта старэйшыя заслужаныя таварышы, але яны — людзі актыўныя, якім заўсёды блізлічэнне гадоўлі быдла. Наогул члены партыі клапоцяцца пра павышэнне ўраджаяў, пра большае выкарыстанне штучных угнаенняў і рост агракультуры, а шэраг з іх вядуць свае гаспадаркі на высокім узроўні, як, напрыклад, Аляксандр Шыманюк. Вясной бягучага года таксама па ініцыятыве партарганізацыі каля 70 жыхароў выйшла на грамадскі чын пры рамонце вуліцы. Навезлі жвіру, выраўналі, аж міла глянуць. Цяпер у гонар VII з'езду нашай партыі таксама будуць прыняты важныя грамадскія абавязацельствы не толькі членамі партыі, але і беспартыйнымі, бо ў нас так заўсёды: ініцыятыва партарганізацыі знаходзіць поўную падтрымку ва ўсім сяле.

## ВЫХАВАЎЦА І ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ

цы польскай мовы **М. Буйко** рэпеціравалі песні і вершы, якія яны нарыхтавалі на ўрачыстасць складання вучнёўскай прысягі вучнямі першага класа. Групкі хлопцаў завіхаліся таксама пры парадкаванні агародчыка і школьнага наваколля.

— Пасля заканчэння ў 1963 годзе аддзялення матэматыкі настаўніцкай студыі ў Беластоку я ўпершыню прыехаў сюды ў Семяноўку і вось ужо працую тут трынаццаты год. Прыжыўся я ў гэтай Семяноўцы і мне тут добра, — гаворыць У. Кічко. — Палюбіў я і тутэйшых дзяцей і дарослых і ўсё гэтае наднараўскае наваколле — сціплае і чароўнае. Людзі тут працавітыя і памяркоўныя, а прырода цудоўная. Ці бывае ў наша стагоддзе, каб на такавішча зляцелася адразу пятнаццаць цецерукоў, як у нас ва ўрочышчы Смальніца, або каб у росную раніцу на лузе каля сяла хадзілі ласі?

Гэтая ўлюбёнасць у Семяноўку выявілася ў У. Кічко ў яго грамадскай дзейнасці. У першыя гады настаўнічання ён разгарнуў работу ў мясцовым гуртку Саюза вясковай моладзі. Гурток быў ініцыятарам шэрагу карысных грамадскіх пачынаў, вылучыў сярод сваіх членаў удалы драматычны калектыў і на працягу некалькіх год ставіў беларускія п'есы не толькі ў сваім сяле, але і выязджаў у суседнія мясцовасці. Некалькі год падрад у Семяноўцы адбыкія грамадскія справы. Вось нядаўна па ініцыятыве нашай партарганізацыі была праведзена меліярацыя ўрочышча Купіна, у выніку сяло атрымала каля 100 га высакаякасных лугоў. Гэта вельмі карысна будзе ўздзейнічаць на паве-



І ў выхаваўчай працы У. Кічко прыкладае ўсе намаганні дзеля стварэння школы, якая моцна звязана са сваім асяроддзем. Дзеля гэтага тут утрымоўваецца цесная сувязь з бацькамі. Яны заўсёды прысутнічаюць на шматлікіх школьных урачыстасцях, актыўна дзейнічаюць у бацькоўскім камітэце, дапамагаюць школе ў гаспадарчых і выхаваўчых справах. Пры іх непасрэдным удзеле ўжо некалькі год падрад у асенне-зімовы перыяд у школе праводзіцца дадатковае харчаванне вучняў — „шклянка паранага малака са свежай булачкай". Семяноўскія школьнікі заўсёды асабліва старанна рыхтуюць мастацкую частку на ўрачыстасць Дня чыгуначніка, гэта значыць, на свята большасці сваіх бацькоў — працаўнікоў чыгункі. Старшакласнікі па меры сваіх магчымасцей заўсёды ўдзельнічаюць у грамадскіх пачынах дарослых.

— Гэты актыўны ўдзел школы ў грамадскім жыцці сяла зусім не перашкаджае добрым вынікам у выхаванні і адукацыі маладога пакалення, але якраз іх узмацняе і пашырае, — заўважае У. Кічко. — Іменна ў непасрэднай сувязі з жыццём, ва ўдзеле ў ім найлепш фармуюцца станоўчыя рысы характару будучых актыўных, працавітых і добрасумленных грамадзян нашай краіны.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара






# Прэтэндэнт у фюрэры

З першай старонкі адной з нарвежскіх газет на чытача пазірае маладжавы чалавек гадоў 35-40, адзіная характэрная рыса ў абліччы якога — вусікі „а ля фюрэр“. Гаспадар іх і сапраўды „фюрэр“. Турэ Руг — кіраўнік адной з неанацысцкіх арганізацый, якія ўзніклі ў апошні час у Нарвегіі. Ён дае інтэрв'ю газеце.

Факт гэты сам па сабе сімптаматычны: у краіне назіраецца актывізацыя дзейнасці неанацысцкіх арганізацый, якія выступаюць з нацыяналістычных і антыкамуністычных пазіцый.

Лідэры „Партыі дзеяння“, „Нацыянальнага маладзёжнага саюза“, „Антыкамуністычнага альянса“, „Нацыянальнага маладзёжнага фронту“ не ўтойваюць, што іх галоўная задача — „барацьба з камуністычным рухам у Нарвегіі“. Яны стараюцца „ўкараніць“ сваіх людзей у рады камуністычных і прагрэсіўных арганізацый краіны, вядуць картатэку асоб, вядомых сваімі левымі поглядамі і настроямі. У неафашысцкіх групоўках уведзена ваеннае навучанне, ствараюцца тайныя склады зброі.

Нарвежскія неанацысты, паводле паведамленняў мясцовай прэсы, імкнуцца наладзіць кантакты са сваімі аднадумцамі ў іншых краінах. За апошні час правялі сустрэчы з прадстаўнікамі ультраправых арганізацый Швецыі і Даніі. У мінулым месяцы Нарвегію наведала „дэлегацыя“ неафашыстаў з ЗША. І, нарэшце, зусім нядаўна мясцовыя „фюрэры“ заявілі аб сваім рашэнні стварыць новую нацысцкую партыю. У Нарвегіі ўжо была ў свой час такая партыя, якая актыўна супрацоўнічала з Гітлерам і стала сінонімам ганьбы і здрадніцтва. Квіслінг панёс заслужанае пакаранне — яго пакаралі смерцю неўзабаве пасля перамогі над фашысцкай Германіяй. Але некаторыя са старых нацыстаў адчуваюць сябе нядрэнна і па сённяшні дзень. Вось яны і выступаюць за аб'яднанне ўсіх „ультра“.

Рэакцыя на спробу аб'яднання ультраправых сіл у нарвежскіх палітычных колах была неадназначнай. Некаторыя грамадскія дзеячы, напрыклад, заявілі, што ў Нарвегіі ў нацыстаў няма базы і, такім чынам, на іх можна не звяртаць увагі. У цэлым жа прагрэсіўная грамадскасць краіны рашуча выступае супраць адраджэння нацызму. Орган Камуністычнай партыі Нарвегіі газета „Фрыхетэн“ піша з гэтага выпадку: „Спроба стварэння нацысцкай партыі ў Нарвегіі — не толькі абняслаўленне светлай памяці патрыётаў, загінуўшых у барацьбе з фашызмам у гады другой сусветнай вайны, але і прамая пагроза жыццёвым інтарэсам працоўных краіны“.

**В. Стральцоў**



*Прыём у піянеры.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Юныя ленінцы

Палац піянераў сталіцы Беларусі — Мінска знаходзіцца на вуліцы Энгельса, адной з цэнтральных вуліц горада. Увайшоўшы ў будынак, мы адразу трапляем у светлы, прытульны хол. Нашу ўвагу прыцягваюць вітражы і шматлікія малюнкі. Тут нам расказалі, што над афармленнем хола вельмі многа і старанна працавалі юныя мастакі Мінска. Палац піянераў пабудаваны ў 1936 годзе. Урачыстае адкрыццё яго адбылося ў дзень 19-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Палац штогод наведваюць звыш 5 000 дзяцей. Тут рабяты з захапленнем займаюцца сваімі любімымі справамі — яны малююць, спяваюць, майструюць авія- і суднамадэлі, збіраюць радыёпрыёмнікі, фатаграфуюць і г.д. Усяго ў Палацы працуе больш 200 розных гурткоў — радыёэлектронікі, тэлеаўтаматыкі, юных архітэктараў, кройкі і шыцця, парусната спорту, харэаграфічны, фартэпіяна, аўтамабільны і многія іншыя.

Хто ж вядзе заняткі ў гуртках? Гэта высокакваліфікаваныя спецыялісты, тэхнікі і інжынеры. Іншымі словамі, усе кіраўнікі гурткоў Палаца піянераў маюць вышэйшую адукацыю. Яны ахвотна дапамагаюць дзецям авалодваць якой-небудзь цікавай справай. Кіраўнікі імкнуцца, каб заняткі былі не толькі займальнымі, але і выклікалі ў дзяцей зацікаўленне да той ці іншай прафесіі.

Ці плоцяць бацькі дзяцей за наведванне гурткоў? Не. Заняткі ў гуртках праводзяцца бясплатна. Галоўная мэта іх — гэта выяўленне і развіццё здольнасцей дзяцей.

Мы ўжо ўпаміналі аб працах, што дэманструюцца ў холе Палаца. Заўважым, што некаторыя з гэтых прац былі прадстаўлены на Брусельскай выстаўцы дзіцячага выяўленчага мастацтва. У ліку лаўрэатаў гэтай выстаўкі быў і мінскі школьнік, удзельнік гуртка выяўленчага мастацтва Палаца піянераў Сярожа Жураўлёў. Яго малюнак „Мост праз раку Свіслач“ адзначан у Бруселі сярэбраным медалем.

І не толькі ў сталіцы Бельгіі дэманстраваліся працы юных мастакоў Палаца. Выстаўкі іх малюнкаў пабывалі больш чым у 60 краінах свету. Іх бачылі жыхары Токіо і Монтэвідэо, Берліна і Варшавы, Дэлі і Сафіі.

Праз некалькі хвілін мы ў актавай зале Палаца. Тут шмат святла і музыкі. Са сцэны даносіцца песня аб Айчыне, аб прыгажосці яе бяскрайных прастораў, піянеры спяваюць з захапленнем, твары іх урачыстыя, у вачах вясёлыя іскрынкі.

На змену спевакам прыходзяць танцоры. Яны выконваюць беларускія народныя танцы. Ды так, што за імі ледзьве музыка паспявае.

А пасля наш шлях праходзіць каля спартыўнай залы Палаца. Тут займаюцца акрабаты. У зале праводзяць свае трэніроўкі юныя гімнасты, баскетбалісты, валейбалісты, тэнісісты. У Палацы піянераў створана і працуе больш 10 спартыўных секцый. Кіруюць імі вопытныя трэнеры горада, майстры спорту. Іх падапечныя з поспехам удзельнічаюць у розных спартыўных спаборніцтвах.



*На выстаўцы дзіцячага малюнка.*

Побач са спартыўнай залай — пакой, у якім займаюцца юныя архітэктары. Тут пануе цішыня. У руках хлопчыкаў і дзяўчат алоўкі і папера. Будучы архітэктар павінен умець добра маляваць. Дзеці паказваюць нам свае малюнкі. Яны не такія яркія, як у тых, хто займаецца ў гуртку выяўленчага мастацтва, не складаныя па зместу, але не пазбаўлены велічы. Малюнкі юных архітэктараў сведчаць аб тым, што дзеці ўжо ўмеюць дастаткова дакладна адлюстроўваць на паперы той ці іншы прадмет.

— Ну, а як наконт архітэктурных праектаў? — пытаем мы.

У адказ дзеці ўсміхаюцца:

— Будуць, абавязкова будуць!

І яны расказалі нам, што мараць праектаваць шматпавярховыя, лёгкія дамы, каб у кожнай кватэры было сонца — вось якія будуць іх будынкі. Зразумела, каб праектаваць такія дамы, трэба шмат і старанна вучыцца. Інакш і нельга, калі ты імкнешся ў будучыні ўпрыгожваць родны горад, працягваць справу сваіх бацькоў.

**Аляксандр Кійранен**
Фота Э. Трыгубовіча








**Sobota — 8.XI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Zool. 8.40 Upalne popołudnie — film fab. bułg. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. Krainy natur. Amer. Półn. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 15.30 Red. Szk. zap. 15.40 Pr. I prop. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Za kierownicą. 16.50 Sport dla ciebie — tenis stołowy. 17.05 Ziemskie orbity kosmosu — teletur. cz. I. 17.20 Pol. Film Dok. 17.50 Ziem. orb. kos. teletur. cz. II. 18.05 Nie tylko pios. 18.40 Ziem. orb. kos. teletur. Finał. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Isadora — film fab. ang. 22.30 Dzien. 22.50 Sport. 23.05 Przeboje i premiery cz. II. 23.55 Opowieści star. pana.

**Niedziela — 9.XI.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Chwila wspomnień — 1972 r. 11.45 Lekt. Pegaza. 12.05 Dzien. 12.25 Tydzień. 12.55 Utwory dla moich przyjaciół. 13.45 Dla dzieci. 14.45 Piór. i węgl. 15.10 Los. Dużego Lot. 15.25 Wielka atrakcja — film fab. radz. 16.45 Refl. ob. 17.00 Schubert nieznany. 17.15 Sport. 18.10 Maghreb fantazyja — rep. film. 18.35 Ze „Śląskiem” przez kraje i kont. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Rodzina Whiteoaków odc. 2. 21.20 Róże Montreux. 22.10 Sport. 22.30 Recital pios.

**Poniedziałek — 10.XI.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Chem. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu — film ser. radz. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: H. Ibsen „Nora”. 21.50 Panorama. 22.35 Dzien. 22.55 Sport.

**Wtorek — 11.XI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) J. pol. Jan Kochanowski „Odprawa posłów greckich”. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Na wielkim i małym ekr. 17.55 Stud. Mł. 18.45 Fakty — Op. — Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Wielka przemiana — film ser. radz. 21.30 Świat i Polska. 22.15 Dzien. 22.35 Sport. 22.45 Opera.

**Środa — 12.XI.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. O równowadze. 9.30 Wielka przemiana — film ser. radz. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chem. Ważne ferment. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.40 Inf. — Tow. — Prop. 17.50 Poligon. 18.10 Wszystko za wszystko. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Gang — film fab. wł. 21.30 Dzien. 21.45 Czym żyje świat? 22.15 Tor wolny. 22.40 Sport.

**Czwartek — 13.XI.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysp. ob. Obrona cywilna. 10.00 (kl. VI) Hist. Rzeczypospolita szlachecka. 10.30 Gang — film fab. wł. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.10 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Jenny — film fab. ang. 21.35 Pegaz. 22.20 Dzien. 22.40 Sport.

**Piątek — 14.XI.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 7.45 Ich dwoje i chłopiec — film fab. bułg. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. W Moskwie. 10.00 (kl. VI.) W Tatrach. 11.05 Zwiedzamy fabrykę. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Zool. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Szperacze. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Mała Encykl. Zwierz. — film ser. fr. 18.50 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Egzekucja w ZOO — film fab. 20.55 Panorama. 21.40 Próba. 22.40 Dzien. 22.55 Sport. 23.05 Inf. — Tow. — Prop.




**Piątek 7.XI.** — 7.50 Moskwa. Plac Czerwony. Defilada. 11.10 Koncert. 11.30 Film fab. 14.35 Gimnastyka art. 15.25 Filmy anim. 15.55 Klub film. 16.55 Film fab. 18.30 Rep. z parady wojsk. 20.00 Błękitny płomyk.
**Sobota 8.XI.** — 11.35 Film fab. 14.30 Filmy anim. 16.25 Piosenka—75. 17.00 Film fab. 18.10 P. nożna. Dynamo (Kijów)—Spartak. 2 połowa. 19.30 Spotkania teatr.
**Niedziela 9.XI.** — 11.30 Film fab. 13.20 Koncert estrad. 13.50 Film fab. 14.20 Film dok. 15.00 P. nożna. Szachtior—Ararat. 17.00 Film fab. 18.05 Teatr miniatur. 19.30 Wieczór w Ostankino.




**Białowieża** Zdradziecki strzał — radz. 11—12. Kobiety zostają same — radz. 13—14. Macocha — radz. 15—16.
**Czeremcha** Listy do matki — radz. 11—12. Wierność — radz. 15—16.
**Czyże** Trzy topole — radz. Trzydzieści trzy — radz. 12—16.
**Dubicze Cerkiewne** Ulica Nadmorska — radz. Towarzysze podróży — radz. 12—16.
**Gródek** Szary okrutnik — radz. 15—16.
**Kleszczele** Yuriko moja miłość — radz. 11—12. Dziewięć dni jednego roku — radz. 13—14. Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 15—16.
**Michałowo** Było nas czworo — radz. 11—12. Z iskry rozgorzeje płomień — radz. 13—14. Człowiek, którego kocham — radz. 15—16.
**Mielnik** Labirynt miłości — radz. 12. Młodzi zakochani — radz. 15—16.
**Milejczyce** Śmiałość — radz. 11—12. Płonąca tajga — radz. 13—14. Pozwólcie startować — radz. 15—16.
**Narew** Złodziej samochodów — radz. Polonez Ogińskiego — radz. 12—16.
**Narewka** W martwej pętli — radz. Berlin — radz. 12—16.
**Nurzec** Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 11—12. Szary okrutnik — radz. 13—14. Pokój przychodzącemu na świat — radz. 15—16.
**Orla** Porucznik jazdy — radz. Zdradziecki strzał — radz. 12—16.
**Rajsk** Porucznik jazdy — radz. Skrawek ziemi ojczystej — radz. 12—16.
**Suchowola** Śmiałość — radz. Siedem niańiek — radz. 12—16.



B.Z.Graf. Zam. 2749. P-1.



## ПОМНІК ГЕРОЯМ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

18 кастрычніка г.г. у Беластоку адбылося ўрачыстае адкрыццё Помніка героям Беластоцкай зямлі. Стаіць ён у цэнтральным пункце горада. Аўтар — праф. Багдан Хмялеўскі з Варшавы — стварыў помнік у форме калонаў, сімвалізуючых высокія дрэвы з бронзавымі кронамі, у якіх, нібы ў гняздзе, асаджаны Белы Арол. Да помніка вядзе камяністая дарога, як увасабленне высілку, цярпенняў і перамогі.

Сімвалічны вечны агонь запаліў Антон Яблонскі з Суража, былы салдат I Арміі Войска Польскага, адзін з тых, што ўзнялі бела-чырвоны сцяг на калоне Перамогі ў Берліне. Паплылі гукі музыкі і паэтычныя радкі, услаўляючыя мужнасць і самаахвярнасць.

Ва ўрачыстасці прымала ўдзел ганаровая кампанія Войска Польскага. Перад помнікам адбылася пераклічка загінуўшых.

У прысутнасці кіраўніка Аддзела ідэйна-выхаваўчай працы ЦК ПАРП Веслава Клімчака, віцэ-міністра нацыянальнай абароны генерала Уладзіміра Саўчука і прэзаса ГП ЗБоВіД Станіслава Вронскага помнік адкрыў I сакратар ВК ПАРП у Беластоку Уладзіслаў Юшкевіч.

Прысутнічала таксама дэлегацыя ветэранаў Гродзенскай вобласці Беларускай ССР.



# Народнае багацце

У ліпені г.г. 11-асабовая група студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам Аляксандра Баршчэўскага займалася збіраннем беларускага фальклору на Беласточчыне.

Гэта была ўжо шостая экспедыцыя студэнтаў кафедры беларускай філалогіі. Плён яе таксама быў багаты. Цягнуць да сябе багатыя фальклорнымі традыцыямі сакольскія вёскі. Тут часта можаш сустрэць беларускую народную песню, казку, прымаўку ці гумар. Жыве тут яшчэ многа людзей, якія трымаюцца старадаўніх абрадаў і адносяцца да іх з пашанай.

З пашанай таксама адносяцца да людзей, запісваючых гэтае багацце. Старыя бабулькі ахвотна спяваюць студэнтам песні, расказваюць старыя легенды. Часта стараюцца тлумачыць некаторыя абрадавыя матывы.

Такія адносіны народа да свайго фальклору выклікаюць яшчэ большае зацікаўленне ў студэнтаў і дадаюць ім ахвоты да працы.

Дзесяць дзён — гэта мала, аднак за гэты час запісалі мы вельмі многа. У студэнтаў засталіся вельмі добрыя ўспаміны аб жыхарах вёсак Баброўнікі, Крапіўна, Коматаўцы, Залессе, Сідра, Сідэрка і многіх іншых. Цяпер толькі трэба будзе запісанае на плёнку перапісаць на паперу, апрацаваць музычную частку і выдаць. Выданне напэўна будзе вельмі цікавае. Такое тут багацце песень аб жыцці чалавека і асабліва яго пераломных момантах — нараджэнні, хрысцінах, вяселлі і смерці, песні аб каханні і здрадзе. Многа будзе песень, звязаных з порамі года, з некаторымі святамі. Цікавы будзе вынік анкеты, якую падрыхтаваў др Аляксандр Баршчэўскі. Яна складаецца з 150 пытанняў, звязаных перш за ўсё з народным варажэннем, з поглядамі старэйшага пакалення на паўстанне і існаванне свят, а таксама на сілы, якія стварылі гэты свет.

Адказаў ёсць шмат і розных. Некаторыя вельмі цікавыя, з філасофскай задумай. Беласточчына яшчэ цяпер з'яўляецца вельмі ўдзячным кутком для тых, каго цікавіць беларускі фальклор. Думаю, што студэнты беларускай філалогіі яшчэ часта будуць туды ездзіць, каб запісваць і ратаваць народнае багацце.

**Павел Гілеўскі**

## Наш каляндар

## Альберт Паўловіч

Належаў да тае кагорты беларускіх пісьменнікаў, якіх да літаратурнай творчасці на роднай мове заклікалі пераломныя падзеі рэвалюцыі 1905-1906 гадоў.

Нарадзіўся **Альберт Францавіч Паўловіч** 11 лістапада 1875 года ў Мінску. Там закончыў чатырохкласнае гарадское вучылішча, а затым працаваў канторшчыкам у розных установах. Першы яго твор паявіўся на старонках „Нашай нівы" ў 1907 годзе. Потым яго вершы друкаваліся ў „Нашай ніве", беларускіх календарах і часопісах. У 1910 годзе выйшаў яго зборнік вершаў „Снапок", а ў 1919 годзе — драма „Васількі".

Памёр А. Паўловіч у 1951 годзе.

**Альберт Паўловіч**

### Родны край

*(урывак)*

*Пакінь пытаць аб край, аб мове:*
*Сваё над жыцце я люблю,*
*І ў прывітанні, ў кожным слове*
*Я беларускі тон лаўлю.*

*Што з глыбі шчырай, непадкупнай*
*Цурком з душы жывой плыве,*
*Дзе ў працы чорнай, цяжкай, рупнай*
*Сумленне з згодаю жыве.*

*Пакінь пытаць! Не дам я веры,*
*Каб Беларусь хто мог забыць:*
*Я пэўны — кожны з нас без меры*
*Любіў і будзе век любіць!!!*

## ТАЯМНІЦА РАСШЫФРАВАНА

У № 29(1012) „Нівы" ад 20.VII. 75 г. пісаў я пра адкрыццё двух плёнак фільмаў, якія перад II сусветнай вайной зняў у Белавежы дырэктар Нацыянальнага парка Ян Ежы Карпінскі. Адна кінастужка не мела пачатку з загалоўкам, і я (таксама, як і тыя, хто гэты фільм глядзеў) не мог канкрэтна сказаць, у якіх акалічнасцях яна здымалася.

Нядаўна трапіў у мае рукі № 4 „Квартальнага інфармацыйнага бюлетэня" з кастрычніка 1938 г. На старонках 19-20 знайшоў я паведамленне пра з'езд аховы прыроды, які адбыўся ў Белавежы 24-28 верасня 1938 г. Аналізуючы тэкст гэтага паведамлення, няцяжка прыйсці да вываду, што менавіта гэты з'езд увекавечыў на кінастужцы Я. Е. Карпінскі.

Галоўнай тэмай фільма з'яўляюцца экскурсіі па пушчы, якія правялі ўдзельнікі з'езду. Я. Е. Карпінскі зняў іх у такой чарзе, у якой яны названы ў паведамленні, г.зн. — у нацыянальны парк (25.IX.), у запаведнікі хваёвых бароў, а таксама ў запаведнік ліннеі (27.IX.). У фільме не хапае толькі экскурсіі (26.IX.) у звярынец, куды Карпінскі, відаць, не змог паехаць.

У паведамленні на 49 удзельнікаў з'езду названа 15. Сярод іх знайшліся такія славы, як праф. др Адам Вадзічка (1887-1948) — адзін з стваральнікаў тэарэтычных асноў аховы прыроды і краявіду, праф. др Баляслаў Грынявецкі (1875-1963) — выдатны батанік і дзеяч аховы прыроды, дац. др Вацлаў Недзялкоўскі (1892-1949) — вядомы ляснік і фітасацыёлаг, інж. Ян Гаусбрандт (1895-1941) — арганізатар і дырэктар Інстытута даследавання дзяржаўных лясоў, др Ян Жабінскі (нар. 1897) — арганізатар і дырэктар варшаўскага заапарка. Некаторых з іх можна прыкмеціць на фільме.

У тэксце інфармацыі ўспамінаецца таксама аб „дэманстрацыі вузкаплёначных фільмаў, знятых кіраўніцтвам парка, ілюструючых працу над вяртаннем пушчы мядзведзя і лося, уяўляючых фрагменты з жыцця зубраў, а таксама спробы рэгістрацыі на кінастужцы розных праяваў пушчанскай прыроды, здымкі пушчанскага музея супольна з прэпараторняй, турыстычных гасцініц і гаражаў, біялагічнай лабараторыі з апазнавальнай і бактэрыялагічна-паляўнічай майстэрнямі". На жаль, ніводзін з гэтых фільмаў не захаваўся да нашых дзён.

Апрача таго, падчас з'езду дэманстраваліся два гукавыя фільмы — „Жыццё пушчы" і „Зубры ў Белавежы", рэалізаваныя на тэрыторыі пушчы ў 1937 г. Яны таксама загінулі.

**П. Байко**

## З жыцця гданьскага клуба БГКТ

У памяшканне гданьскага клуба БГКТ у суботу і нядзелю прыходзяць нашыя сябры, каб правесці свабодны час, каб пачуць тут роднае беларускае слова. Сюды прыязджаюць часам літаратары з аб'яднання БГКТ „Белавежа" і чытаюць свае творы. У апошні час быў тут Кастусь Бандарук, які чытаў свае вершы. Не так даўно адзначалася там таксама 50-ая гадавіна Беларускай сялянска-работніцкай грамады; на гэтую тэму Эдвард Шафаловіч выступіў з дакладам. Члены Беларускага таварыства ў Гданьску кожны год бяруць удзел у грамадскіх чынах. У бягучым годзе працавалі яны пры пасадцы лесу. За гэта атрымалі з надлясніцтва падзяку, у якой напісана: „Дзякуючы ўзорнай працы членаў вашага таварыства, створаны зялёны помнік з нагоды XXX гадавіны вызвалення Гданьска і перамогі над фашызмам". (мх)

## Made in Катлы

Вядома, вытворчасць саламяных дарожак, каробак, бочак, крэсел ды сталоў, а таксама кашоў з ракіты гэта не такая важная справа для Беластоцкага ваяводства, як скажам, жывёлагадоўля. Напэўна меншы яе ранг, але, што неабходна падкрэсліць, гэта ўсё ж вельмі даходная вытворчасць. У Беластоцкім ваяводстве многія жыхары вёсак, мястэчак, а нават гарадоў займаюцца саматужніцтвам. Некаторыя з іх да 15 і 20 тысяч злотых у месяц дацягваюць.

Пра саламянае багацце пісалі мы часта, але аб вытворчасці прадметаў з каляровай бліскучай ракіты, якія могуць захапляць усіх, — не. Таму наведалі мы прадпрыемства па вырабу з ракіты „Лес" у вёсцы Катлы непадалёку ад Бельска. З ходам працы на гэтым маладым (усяго з трохгадовым стажам) прадпрыемстве, знаёміў нас загадчык Міхась Сіткоўскі. Прадпрыемства памясцілася ў свабодных будынках былога кааператыва. Цяпер ідзе іх рамонт і адаптацыя.

На катлоўскім прадпрыемстве „Лес" працуе 25 асоб. Тут ідзе нарыхтоўка ракіты, сушэнне, абкароўванне, а пасля высылка гатовых вырабаў. Прадпрыемства экспартуе іх у Швецыю, Англію, Францыю, Аўстралію ды ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Прадукцыя — гэта перш за ўсё розныя па форме кошыкі і кошычкі ды ўпакоўка на шкляныя вырабы. Выходзяць яны з-пад працавітых спрытных рук сялян і сялянак з Катлоў, Орлі, Быстрага, Шмурлаў, Пілiпкаў, Парыева, а нават самой Гайнаўкі. Усе яны даюць прадукцыю агульнай вартасці 4 мільёны злотых, а праз два гады яна павялічыцца ў восем разоў. З часам кіраўніцтва намерана адкрыць прадукцыю плеценай хатняй мэблі з ракіты, на якую ёсць таксама вялікі попыт. Тады ракіты спатрэбіцца 1600 тон. Дзеля гэтага прадпрыемства загаспадарыла пад вырошчванне ракіты пару дзесяткаў ПФЗ-этаўскіх аблогаў, у тым ліку 15 гектараў каля вёскі Даратынка ў Нараўскай гміне і каля вёскі Зубава ў Бельскай гміне. Апрача таго, ракіту дастаўляюць прадпрыемству індывідуальныя плантатары з Бельскай акругі. Ужо ў наступнай пяцігодцы прадпрыемства будзе вырошчваць ракіту на 100 га зямельных угоддзяў.

Што пляценне кашоў — гэта даходны занятак, пацвярджаюць найбольш актыўныя пастаўшчыкі Галена і Сяргей Абрамюкі ды Мікалай Філіпюк з жонкай з вёскі Парыева і іншыя. Увачавідкі пераканацца можна ў гэтым, калі заглянем на іх панадворкі. У іх прыгожыя дамы і на сучасны лад пабудаваныя гаспадарчыя будынкі. Дома ў іх прыгожая мэбля. На гаспадарцы карыстаюцца яны машынамі.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**



*Ніна Парфенюк з вёскі Трашчоткі і Генрыка Беляварчык з Сабуткі за лакіраванем толькі што сплеценых кашоў, прызначаных на адсылку замежным пакупнікам.*

Пачатак на стар. 1




маладыя людзі, якія калісьці рыхтаваліся і рыхтуюцца да ўцёкаў з родных вёсак.

**І зямля астаецца асірацелай, без догляду, нікому не патрэбная, затрачвае сваю вартасць.**

Нядаўна ў цяперашнім Беластоцкім ваяводстве былі праведзены спецыяльныя доследы. Спецыялісты з Інстытута вясковых праблем і развіцця сельскай гаспадаркі з Польскай акадэміі навук у многіх гмінах пыталі сялян:

**— Колькі ў вас каштуе зямля?**

І нашы сяляне найчасцей адказвалі:

**— Не ведаем, бо ў нас пасля вайны ніхто не купляў і не прадаваў зямлі.** Яе нават дарма не бяруць, бо зараз і падатак падскочыць.

Да мрокаў гісторыі адышоў у нас ужо той час, калі за пядзь адворанай палоскі, за адну скібу даходзіла да крывавых боек. Здаралася гэта і майму бацьку, якому яго швагер разбіў галаў, калі пасварыліся яны за тое, хто мае абрабляць адну невялікую палоску. І я сам па некалькі раз адмерваў шырыню заворанай палоскі, каб не аставіць лішняга свайму суседу. А цяпер бацькоўская гаспадарка ўжо звыш 20 год знаходзіцца ў спулдзельні прадукцыйнай.

Іншыя гаспадаркі гэтага тыпу складаюць дзяржаўны фонд зямлі. У Беластоцкім ваяводстве накапілася яго ўжо 43 тысячы га. Гэта стан на 1 чэрвеня 1975 г. Толькі за першую палавіну гэтага года гміны заапекаваліся звыш 19 тысячамі гектараў зямлі, уласнікі якой адмовіліся ад сваіх гаспадарак.

Найчасцей пакідаюць зямлю ў гмінах: **Нараўка, Нарва, Белавежа, Чарэмха, Заблудаў, Бабікі, Крынкі, Міхалова і Мельнік.** Дзяржаўны фонд зямлі састаўляе ў гэтых гмінах больш чым 10 працэнтаў агульнай плошчы зямельных угоддзяў.

Калі бліжэй прыглядзецца да ўсіх гэтых гмінаў і да кожнай з іх паасобку, тады аказваецца, што зямлю пакідаюць перш за ўсё там, дзе яна найгоршая, дзе зямля патрабуе ад селяніна асабліва многа працы, каб дабіцца высокай рэнтабельнасці. Гэта ўсходняе пагранічча Беластоцкага ваяводства. Зямля V-VI класаў, узгоркі і пералескі. Нічога тады дзіўнага, што маладыя людзі не бачаць там для сябе жыццёвых перспектыў і ўцякаюць у горад.

**Праведзеныя доследы і дакладныя падлікі паказалі, што ў вёсках Беластоцкага ваяводства жыве больш чым 25 тыс. уласнікаў гаспадарак, якія ўжо разменялі шосты дзесятак свайго жыцця. Амаль 9 тыс. сярод іх зусім не мае каму перадаць сваёй зямлі. 7 тысч гаспадароў, якія засталіся без наследнікаў, пражылі ўжо на гэтым свеце больш чым 60 год. У іх уладанні знаходзіцца амаль 70 тыс. га зямлі.**

Вядома, ім толькі абы неяк дацягнуць да канца сваёй зямной вандроўкі. Яны не зацікаўлены высокапрадукцыйнымі метадамі сучаснай гаспадаркі, бо для каго забівацца?

Краіна, аднак, патрабуе прадуктаў вясковай гаспадаркі. І на зямлі трэба вырошчваць усё больш і больш. Беластоцкае ваяводства мае канкрэтную і шматгадовую праграму загаспадарвання дзяржаўнага фонду зямлі і малапрадукцыйных гаспадарак. Пра гэта пагаворым аднак наступным разам.

**Максім Нурэцкі**

## Ці ведаеце, што...

...самыя распаўсюджаныя ў славян імёны Іван і Марыя па свайму паходжанню з'яўляюцца не рускімі, а трапілі да нас праз грэкаў. Марыя азначае „гаспадыня або пані“. Іван (ад грэчаскага Іоан — добры, цудоўны, жыватворны). Прычым, імя Іван распаўсюджана ў іншых краінах. Вось як яно гучыць на розных мовах: Іаган (па-нямецку), Хуан (па-іспанску), Йаао (па-партугальску), Джавані (па-італьянску), Джон (па-англійску), Ян (па-чэшску), Жан (па-французску), Вано (па-грузінску), Аванес (па-армянску). (ця)






Прадукцыйнае прадпрыемства „Ленполь“ у Бельску Падляшскім, якое ўзнікла ў 1952 г., абапіраецца на плантатарах з былых паветаў: Сямяціцкага, Сакольскага, Гайнаўскага, Лапскага і Бельскага. На гэтай тэрыторыі мае яно сем сваіх цэнтраў скупкі, якія ў гэтым годзе, згодна з умовай, мелі прыняць 11 800 тон ільняной саломы. План, як паінфармавалі ў дырэкцыі, можна лічыць, што выканаюць, хаця год быў не вельмі спрыяльны. У мінулым на скупках былі вялікія клопаты, якія вельмі трывожылі прадпрыемства. Справа ў тым, што надта хутка памяншалася колькасць плантатараў. Цяпер, аднак, у сувязі з павышэннем на 33% цэн скупкі, што мела месца ў мінулым годзе, сітуацыя змянілася. Агульная колькасць плантатараў даходзіць да 4050. Да найлепшых трэба залічыць: Кохана Леанідаса з Люшч, які дабіўся высокага ўраджаю, а менавіта 50 цэнтнераў з га, Матвеюка Сцяпана з Кнарыд — 47 цэнтнераў з га, Ляшука Антона з Дзяцінната, Заброцкага Яна з Аўгустова, Міхала Фальковскага з Грабаўца. Можна было б многіх яшчэ пералічыць, але гэтыя самыя надзейныя. Калі наогул браць кантрактацыю, то найлепш яна праходзіць у былых Гайнаўскім і Сакольскім паветах.

Адносна пяцігодкі можна сказаць, што закончылі яе паспяхова ў трэцяй чвэрці. У чацвёртай — або распачнуць новую, або будзе гэта ўжо дадатковая прадукцыя.

Цікавы шлях праходзіць тут лён. Зразумела, спачатку ён мусіць трапіць на скупку. Адзін такі цэнтр скупкі знаходзіцца ў Аўгустове, што каля Бельска. Апрача таго, што скупляюць, ёсць там спецыяльныя машыны, якія аддзяляюць ільняное зерне ад саломы. 70% адабранага зерня прадаюць плантатарам як насенне, а 30% забірае, як сыравіну, тлушчавая прамысловасць. Палова, якая паўстае пры аддзяленні, ідзе на корм. Аддзеленую салому кладуць у стагі, адкуль потым трактарамі вязуць у Бельск для перапрацоўкі на валакно. Але пакуль дойдзе да валакна, якое забіраюць ткацкія заводы, а найчасцей у Чэнстахове, Жырардове і на Шлёнску, лён мусіць прайсці доўгую дарогу. Мочаць, сушаць, прапускаюць праз розныя машыны і чаго толькі з ім не робяць.

Аднак не гіне тут нішто. Усё мае сваё прызначэнне. Нават кастрыца, і тая з'яўляецца даволі каштоўнай сыравінай. Адсылаюць яе на фабрыку кастрыцавых пліт у Шчытне.

У бельскім „Ленполі“ пастаянна працуе 700 рабочых. Найбольш, аднак, жанчын. Некалі працавалі тут сезонна, але цяпер, калі ўвялі механічныя сушылкі, сезоннасць гэтую ліквідавалі. Калі гаварыць пра ўмовы працы, то няма чаго скрываць — не найлепшыя. Менавіта не даведзена да канца справа вентыляцыі. Але ўсё гэта паступова паляпшаецца і з цягам часу напэўна намнога паменшыцца гэтага пылу і непрыемнага паху.

**М. Ш.**



*Стагі ільняной саломы на пункце скупкі ў вёсцы Аўгустова каля Бельска*

Фота **Я. Цялушэцкага**



*Прадукцыйнае прадпрыемства „Ленполь“ у Бельску.*

## Валін магазін

Усё лета і аж па сённяшні дзень Валя Шыманюк прымае яечкі ў сваёй каморцы. Чыста і прыемна тут. Мясцовыя жанчыны, а таксама гаспадыні з бліжэйшых вёсак, кожную пятніцу — хто пехатой, хто фурманкаю, хто веласіпедам, матацыклам — дастаўляюць свой тавар у Валін магазін. Валя хутка і ветліва ўладжвае ўсё і яшчэ знойдзе час пагутарыць з чалавекам. Нават ў найбольш рабочы час яна ў вызначаны дзень не пакідае свайго магазінчыка ў Дубічах Царкоўных. Таму ніхто ніколі не прыносіў назад хрупкага тавару. Людзі ў нас шануюць сваю скупшчыцу.

**М. Панфілюк**




*...ліквідавана Таварыства сяброў Гарадка. Відаць, не было іх?*

*(ся)*




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXX

**Драматургія.** Прыступім да характарыстыкі апошняй катэгорыі творчасці Гаруна, да яго драматургіі. Пісьменнік пісаў выключна п'есы для дзіцячага тэатру. Дзіцячая праблематыка не з'яўляецца тыповай для яго паэтычнай творчасці. Аднак у „Матчыным дары“ знаходзім некалькі вершаў дапасаваных сваім узроўнем да дзіцячага ўзросту. Але такі тып вершаў у паэзіі Гаруна — з'ява рэдкая. Затое ўся драматычная творчасць пісьменніка звязана з дзяцьмі. У 1920 годзе ў Мінску была выдадзена сціплая кніжачка „Жывыя казкі“ з падзагалоўкам: для дзіцячага тэатру. У гэтай кніжцы змясціў Гарун тры драматычныя творы: „Хлопчык у лесе“, „Шчаслівы чырвонец“, „Дзіўны лапаць“.

Мабыць, усе свае сцэнічныя творы напісаў Гарун пасля звароту ў Беларусь з сібірскай ссылкі. Нацыянальнае прабуджэнне беларусаў, звязанае з чарговымі рэвалюцыямі і грамадскімі зрухамі ў Рускай імперыі, паставіла надзённую задачу — выхаваўчую і асветніцкую працу сярод дзяцей. Ужо некалькі гадоў да Кастрычніцкай рэвалюцыі на хвалі нашаніўскага адраджэння паяўляецца першы беларускі тэатр Ігната Буйніцкага. Падзеі, звязаныя з першай сусветнай вайной і дзвюма рэвалюцыямі 1917 года, ставяць на павестку дня праблему навучання дзяцей на роднай мове, выхавання маладога пакалення ў нацыянальным духу. Зразумела, што ў складаны перыяд 1917-1921 гадоў ідэя нацыянальнага выхавання была трактавана па-рознаму, у залежнасці ад таго, якія палітычныя групіроўкі гэтую ідэю прапагандавалі. Напэўна, і Гарун кіраваўся ў гэтай матэрыі акрэсленымі меркаваннямі. Трэба, аднак, сказаць, што ў прадмове да „Жывых казак“ і ў самім тэксце казак палітычныя тэндэнцыі пісьменніка не праявіліся. Можам, зразумела, гаварыць аб этычна-маральнай тэндэнцыі п'ес Гаруна, але гэты аспект яго твораў не звязаны з якім-колечы партыйным палітыкаваннем.

Значную цікавасць прадстаўляе прадмова да „жывых казак“. З яе ясна вынікае падыход пісьменніка да ідэі і характару дзіцячага тэатра. У разуменні і інтэрпрэтацыі тэксту сваіх п'ес дапускаў Гарун вялікую свабоду. Лічыў, што акцёры-дзеці могуць свабодна выбіраць з тэксту тое, што ім найбольш адпавядае і адкідаць тыя фрагменты, якія, па такіх ці іншых прычынах, ім не падабаюцца. Гэтая „свабода“ сімптомная. Мабыць, Гарун імкнуўся да максімальнага развіцця асабовасці дзіцяці. У даным выпадку трактаваў ён дзяцей як сааўтараў сваіх твораў. Мабыць, пісьменнік не давяраў свайму драматургічнаму майстэрству і лічыў, што дзеці-акцёры і дзеці-гледачы могуць удасканаліць яго п'есы шляхам дадавання або аднімання ад іх пэўных элементаў. Цікава, што прадмова ў „Жывых казках“ не накіравана да настаўнікаў, да пастаноўшчыкаў ці рэжысёраў п'ес, а толькі да дзяцей. У іх рукі перадаваў пісьменнік з даверам свае драматычныя творы і быў перакананы, што дзеці іх не сапсуюць, а наадварот, могуць іх палепшыць. Паслухайма Гаруна:

„Жывымі назваў я казкі, надрукаваныя ў гэтай кніжачцы дзеля таго, што не чуў іх ад каго-небудзь і потым запісаў, але ўласнымі вачыма бачыў і вушамі чуў усё тое, што ў іх дзеецца. Спадзяюся, што мае чытачы гэта і самі ўмеюць: бачыць тое, чаго для іншых саўсім няма.

„Жывымі“ назваў я іх яшчэ і дзеля таго, што хацеў, каб з іх была для маіх чытачоў большая карысць, чым з тых апісанняў больш ці менш цікавых здарэнняў, каторыя звычайна называюцца таксама казкамі і па прачытанні найчасцей забываюцца. Я хацеў, каб кожная з маіх казак пасля прачытання выклікала ахвоту паказаць прачытанае ў асобах — „згуляць“.

...Пры гэтым я саўсім не буду пакрыўджаны, калі, гуляючы — паказваючы гэтыя казкі, вы штось у іх зменіце подлуг свайго ўпадабання, што-ніщто дадасце, што-ні-што ўйміце. Наадварот, я буду вельмі рады гэтаму папраўленню, а калі б заахвочаныя сваёй працай над гэтым і выдумалі б нешта саўсім новае, то я віншаваў бы сябе з тым, што мае казкі добрыя ўдаліся“.




# МАСТАПАЛОХ

Шкада, што мастоў у музей не бяруць. А такі ж добры экспанат у Кожыне ёсць! Яго толькі ў музей, бо да нічога іншага не падыходзіць. Няхай бы адпачываў сабе там, выклікаючы зацікаўленне ў наведвальнікаў. А так толькі падарожнікаў палохае. Добра яшчэ, калі едзеш веласіпедам або матацыклам. Але вось, напрыклад, пад'язджае трактар з дзвюма (або нават і з адной) прычэпамі грузу. Ці ж не заскачуць у трактарыста мурашкі па спіне, як прачытае на інфармацыйнай дошцы: „рака Локніца, апорнасць моста 2 тоны“, калі толькі адзін трактар важыць больш. Або грузавая машына, яна ж таксама не лягчэйшая. Што тады рабіць? Там рака, тут мост гнілы — а даехаць трэба. Найлепш было б раскручваць машыны на часткі і пераносіць на другі бок, або затрымоўвацца і пехатой ісці ў вёску. Але ж дзіўна б гэта выглядала. Глядзіш, а тут трактарыст прычэпу на плячах валачэ, або, пачынаючы ад Зубава, чарга машын стаіць і ўсе — ў Кожына. Хто ж захоча рабіць з сябе насмешку.

Дык кожны мчыцца, лічачы на шчасце. Зусім, як ігра ў таталізатар, толькі тут справа ў жыцці, а не ў мільёне. Праўда, рака неглыбокая, але не ведаю, ці знайшоўся б з адзін ахвотны шугануць туды разам з мостам і машынай.

Не сцерпяць некалі гнілыя дошкі, і рассыплецца мост, як домік з карт. Гэта ж аж страх, пехатой і то цяжка прайсці. Днём — ну, яшчэ паўбяды, але ноччу, а напэўна здараецца хадзіць, так і глядзі, што ўсунешся ў дзірку нагою. А што будзе, як снегам пакрые? Не ведаю толькі, як коньмі ездзяць. Хопіць, каб той мацней ступіў, так і праваляцца дошкі. Ды што тут гаварыць, калі пралёты і тыя, хоця па іх, здаецца, і не ездзяць, развальваюцца. Адным словам, старасць. Аднак пад ёй скрываецца даволі вялікая небяспека. Былі такія масты і ў Трэшчатках, і ў Катлах, і ў Белай (бліжэйшыя вёскі), але іх даўно замянілі новымі, мураванымі. Праўда, гэта было якраз на аўтобусным шляху, але ж у Кожыне таксама людзі ездзяць. Ці ж не запозна будзе прымацца за працу, калі нехта пакалечыцца або нават заб'ецца? На маю думку, можна было б і раней гэтым заняцца. А перш за ўсё жыхары Кожына павінны дамагацца, каб як найхутчэй распачаць пабудову. Яны ж найлепш павінны ведаць аб гэтым. Ці ж не так? (іша)

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні № 8 у Бельску, вул. Міцкевіча 66, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Казлоў В. І.,** Людзі асобага складу, 1967, стар. 392, цана 9 зл. 30 гр.

Успаміны Героя Савецкага Саюза В. І. Казлова расказваюць аб партызанскім руху на Беларусі.

**Рамановіч Яўген,** Знаёмыя сілуэты, 1974, стар. 160, цана 4 зл.

Кніжка ўспамінаў старэйшага беларускага пісьменніка, акцёра і тэатразнаўцы пра выдатных дзеячоў беларускай літаратуры і культуры: Я. Купалу, Я. Коласа, М. Чарота, А. Александровіча, Э. Самуйлёнка, З. Бядулю, К. Чорнага, П. Глебку, У. Галубка.

**Крапіва Кандрат,** 1971, стар. 144, цана 5 зл. 50 гр.

Зборнічак з кішэннай серыі „Бібліятэка беларускай паэзіі“, у які ўключаны лепшыя творы старэйшага беларускага пісьменніка, перш за ўсё яго славутыя байкі.

У глыбі жыцця, 1972, стар. 272, цана 4 зл. 50 гр.

Вельмі ўдалы зборнік апавяданняў сучасных беларускіх пісьменнікаў сярэдняга пакалення: В. Адамчыка, В. Быкава, У. Дамашэвіча, У. Караткевіча, М. Капыловіча, А. Кудраўца, І. Пташнікава, А. Савіцкага, Б. Сачанкі, М. Стральцова і І. Чыгрынава.

**Навуменка Іван,** Падарожжа ў юнацтва, 1972, стар. 434, цана 9 зл. 60 гр.

У зборнік увайшлі лепшыя апавяданні і аповесці, у якіх пісьменнік вяртаецца да свайго юнацтва.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:
„Dom Książki”, Księgarnia nr 8, 17-100 Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 66.

(іс)

# ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, оддала мэнэ мать у чужую сторону,*
*у чужую сторону шчэй вэлікую сім'ю,*
*у чужую сторону шчэй вэлікую сім'ю.*
*А вэліка сім'я вэчэраты сіела,*
*а мэнэ, молодую, высылают по воду,*
*а мэнэ, молодую, высылают по воду.*
*Я й по воду ішла, прыстаноўлювалась,*
*я й з водою ішла, прыслухоўлювалась,*
*я й з водою ішла, прыслухоўлювалась.*
*Хто-то ў сэнёх говорыт, маты з сыном говорыт:*
*— Чом до корчмы нэ ідэш, чом горыэлкі нэ п'еш?*
*чом до корчмы нэ ідэш, чом горыэлкі нэ п'еш?*
*Чом горыэлкі нэ п'еш, чом ты жонкі нэ б'еш?*
*чом горыэлкі нэ п'еш, чом ты жонкі нэ б'еш?*
*— Ох, мать, моя мать, мать родімая.*
*А што ж тобіе наробіла моя мілая?*
*А што ж тобіе наробіла моя мілая?*
*А як ее браў, то ўсёй род выхваляў,*
*а як я ее ўзяў, то я й сам нэ рад стаў,*
*а як я ее ўзяў, то я й сам нэ рад стаў.*
*А як ее браў, то як з рожы цвіеток,*
*а тэпэр вона стала, як біеленькі платок,*
*а тэпэр вона стала, як біеленькі платок.*

Ад Надзеі Грушэўскай, 1942 года нараджэння, Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, і Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# ЖЫВЁЛАВОД З ЗУБАВА

Аляксей Лісоўскі — ураджэнец вёскі Зубава Бельскай гміны. Калі жыла яшчэ яго маці, гадавалі яны курэй. 500 штук. Ніхто тады не прывозіў толькі яек на прадпрыемства па нарыхтоўцы яек і свойскай птушкі ў Бельску, як Аляксей Лісоўскі. Ён быў дастаўцам нумар адзін.

Калі Аляксей застаўся адзін, ён пачаў разводзіць свіней. Парасят купляў на кірмашах. Калі не хапала месца ў абory, тады пабудаваў дашок. Пад дашком з часам пабудаваў сценку, загарадкі ды адпаведныя карытцы на корм. У мінулым годзе прадаў дзяржаве 190 свіней. Да яго на панадворак часта прыязджалі нават экскурсіі, каб паглядзець, ці гэта магчыма, каб аж столькі... Вядома, цяпер гэта ўжо не навіна.

Сёлета жывёлавод з Зубава прадасць мясной гандлёвай базе ў Бельску 124 свінні.

Працы ў Аляксея Лісоўскага хоць адбаўляй. Падумаць толькі, адных кармоў трэба штодзённа колькі нарыхтоўваць! Розных мяшанак, польфаміксу, люцэрны, ячменю... Вядома ж, такое стадка нямала з'есць. Вады і тае ў адным калодзежы не хапае.

Цікавыя планы ў Аляксея Лісоўскага на будучыню. Ён чакае толькі, каб яго родны брат Міхась, які цяпер жыве ў горадзе, пасяліўся ў ягонай хаце на вёсцы. Разам пачалі б гадаваць не менш 1000 штук свіней. На столькі штук гэтай карыснай хатняй жывёлы пабудуюць павеці на полі, паколькі зямля ў іх не вельмі ўраджайная. Гадаваць будуць толькі летам. Напрадвесні будуць купляць парасят, адкормку весці летам, калі і цёпла, і кармоў удосталь, а ўжо позняю восенню будуць прадаваць.

Малады селянін Аляксей Лісоўскі пасля цяжкай працы з ахвотай бярэ ў рукі свае любімыя газеты і часопісы. Дыяпазон яго зацікаўленняў шырокі. Цікавіцца ён, што перш за ўсё дзеецца на шырокім свеце, чытае сельскагаспадарчую прэсу, дзе знаходзіць парады ў галіне жывёлаводства і інвентарскага будаўніцтва. Многія з практычных парад вопытны жывёлавод уводзіць у сваёй гаспадарцы. Таму і мае такія дасягненні, як рэдка хто ў ваколіцы. (ця)

# ЯК ЧЛЕН СЯМ'І

Было гэта незадоўга перад пачаткам вайны. Маці трохгадовага Анатоля, Параскева Буценка выехала на лячэнне, а бацька, афіцэр Савецкай Арміі, апекаваўся дзіцём пры дапамозе сям'і Пякарскіх са Старасельцаў, у якой яны тады былі на кватэры. Калі немцы напалі на Савецкі Саюз, бацька Анатоля, Канстанцін Буценка пайшоў абараняць радзіму. Анатоль астаўся ў Пякарскіх. Пякарскія — Эдуард і Галена, а таксама іх дачка Рэгіна даглядалі малыша і так да яго прывыклі, што Анатоль стаў сапраўдным членам іх сям'і. І як не дзіўна, але Пякарскія нават ахрысцілі яго ў касцёле і назвалі Войцехам. Перажыў гэты Войцех (Анатоль) нямецкую акупацыю, а пасля вызвалення хадзіў у пачатковую школу. Навучыўся польскай мове.

У той час Рэгіна Пякарская выйшла замуж за Ігната Акулінскага. У 1950 годзе па свайго сына прыехала маці і забрала яго да сябе ў Ленінград. Шчаслівыя былі бацькі, што іх каханы сын зноў з імі разам. Ад гэтага часу паміж Ленінградам і Беластокам ўстанавілася цесная дружба. Анатоль, калі быў ужо студэнтам, прыязджаў у Беласток наведаць сваіх выхавацеляў, а таксама сваіх калег з пачатковай школы. Праз нейкі час Ігнат Акулінскі па запрашэнню Анатоля Буценкі ездзіў у Ленінград і сардэчна быў прыняты Анатолем і яго бацькамі. Анатоль часта хадзіў з Ігнатам Акулінскім па гораду і паказваў яго помнікі. Цяпер Ігнат Акулінскі зноў плануе паехаць у СССР і там спаткацца з Анатолем.

Гады праходзяць і ўсё змяняецца. Анатоль ужо жанаты, працуе на адказнай пасадзе. Старыя Пякарскія: Галена і Эдуард ужо паўміралі. Але жыве аб іх памяць у Анатоля Буценкі і яго бацькоў.

**Міхась Хмялеўскі**

# НОВАЯ КАВЯРНЯ

Ідзе ўжо трэці месяц з таго часу, як жыхары Міхалова атрымалі кавярню. Адкрыў яе ГС. Кавярня змяшчаецца ў даволі прасторным і ўтульным зале. Хапае тут месца для некалькіх дзесяткаў асоб. У цёплае надвор'е можна выйсці на панадворак і пасядзець пры моднай чорнай каве за столікам пад каляровым парасонікам. У дажджлівыя або халодныя дні знешнюю вопратку можна пакінуць у куточку, спецыяльна адведзеным на раздзявальню. Наведвальнікаў ветліва і з прыемнай усмешкай на твары абслугоўваюць Галіна Орач і Аліна Ярмацэвіч, абедзве абсальвенткі прафесіянальнай гастранамічнай школы ў Беластоку.

У міхалоўскай кавярні збіраецца асабліва многа моладзі. Пераважна вечарамі ў суботу і нядзелю. Прыемна тут пасядзець, сустрэўшыся са знаёмымі, ды паслухаць сучасныя мелодыі з праігрывацеля. У куце абшырнай залы стаіць таксама тэлевізар, але яго неабходна адрамантаваць. (ця)

# Этнаграфічнае акенца



Вёска Пасынкі, што на Бельшчыне. Фота Я. Цялушэцкага




**Дарагое „Сэрцайка“!**

У кастрычніку ў нашай вёсцы быў фэстын. Сабралося вельмі многа моладзі, прыехалі з навакольных вёсак, а вечарам прыехалі на забаву яшчэ і тыя, што працуюць у горадзе, ды са сваімі сябрамі. Іграў добры аркестр, было весела. І я тут пазнаёмілася з хлопцам з горада. Ён мне вельмі спадабаўся, культурна сябе паводзіў. Я гуляла з ім цэлы вечар. Калі закончылася забава, ён правёў мяне дамоў, а сам адразу пайшоў на аўтобус. Абяцаў, што наведае мяне, што будзе пісаць пісьмы. Я з нецярплівасцю чакаю, а пісьма ўсё няма. Начамі спаць не магу, усё толькі аб ім думаю. Ужо надумалася пайсці да гэтага хлопца, з якім ён прыехаў, на нядзелю ён прыязджае дамоў, можа б ён што сказаў, або даў мне яго адрас, дык можа б сама напісала да яго. Але ці не будзе гэта выглядаць, што я сабой накідаюся, бо чытала я ў „Сэрцайку“, што дзяўчаты ганарова павінны трымацца і не накідвацца сабой. Таму і пастанавіла параіцца з табой, што зрабіць, як паступіць. Надрукуй мне, „Сэрцайка“, адказ як найхутчэй.

**Ніна з Гайнаўшчыны**

**Ніна!** Не дапытвайся ты пра яго і не пішы, бо будзе выглядаць, што ты за ім бегаеш. Ён ведае твой адрас, дык калі захоча, напэўна напіша і прыедзе. А калі не адазвецца, мусіш і з гэтым прымірыцца. Ты яго бачыла толькі раз, не ведаеш, хто ён. Можа, прыехаўшы ў вашу вёску, проста прыемна правёў з табой вечар. Час пакажа.

**„Сэрцайка“**

§ Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Б. Т. купіў на прадпрыемстве абароту гадаўлянай жывёлай цёлку. Ва ўмове было адзначана, што павінен ён заплаціць грашыма, хаця пры гэтым быў ён павучаны, што можа старацца ў банку, каб атрымаць пазыку. Банк прызнаў пазыку, але кіраўнік сельскагаспадарчай службы згубіў пазыкавае абавязацельства, і грошы не былі ўплочаны прадпрыемству. Прадпрыемства падало ў суд. Атрымаўшы выклік у суд, Б. Т. па пошце пераслаў прадпрыемству належныя грошы, а на судовы разбор не пайшоў. Суд завочна прысудзіў на карысць прадпрыемства належнасць за цёлку, паколькі яму не паведамілі, што грошы ўжо заплачаны; таксама прысудзіў значную суму належных судовых коштаў. Прадпрыемства накіравала рашэнне да судовага выканаўцы, каб прымусова сцягнуць з Б. Т. судовыя кошты. Ці слушным з'яўляецца патрабаванне звароту судовых коштаў, паколькі грошы за цёлку ўплочаны яшчэ перад разгледжаннем справы судом, тым больш, што затрымка з заплатай наступіла без віны Б.Т.?

АДКАЗ: Згодна з умовай, прадпрыемства мела права патрабаваць заплаты грашыма, і не было абавязана чакаць, пакуль заплаціць банк. Паколькі яно належнасць не атрымала, то мела аснову патрабаваць заплаты ў судзе. Таму, калі б суду было вядома аб тым, што пасля перадачы справы ў суд належнасць была заплачана, быў бы абавязаны прысудзіць на карысць прадпрыемства толькі судовыя расходы. Яны не належыліся б прадпрыемству, калі б Б. Т. не даў асноў для судовай справы, г.зн., каб грошы былі ўплачаны перад зваротам прадпрыемства да суда. Не змяняе справы факт, што затрымка з уплатай наступіла з віны кіраўніка сельскагаспадарчай службы. Прадпрыемства за яго не адказвае. Б. Т. можа патрабаваць ад гэтага кіраўніка выраўнання ўсёй шкоды ў выніку яго нядбаласці, але судовыя расходы прадпрыемству звярнуць мае абавязак.

ФОТА ПА ЗАКАЗУ

GRUPA EDEN

*Заказвала Крыся Граматовіч з Васькой.*



ВЕР-НЕ-ВЕР

*Сніцца мне, што я ў сваёй мачыхі. Яна мяне аглядае з усіх бакоў. Я паказваю ёй свой залаты бранзалет. А яна кажа: „Ён не залаты!“ І, глянь ты, сапраўды, я пачынаю заўважаць, што золата нібы памутнела, пацямнела, паявіліся нейкія трэшчыны. Пачынаю сумнявацца і я. Сон гэты мусіў нешта абазначаць. Але што?*

**Галя**

*Так, сапраўды, сон ваш цікавы і многазначны. Бранзалет абазначае, што вас чакае ў нядоўгім часе шлюб. Толькі ці будзе ён шчаслівы, вось загвоздка... Золата, якое прадвяшчала б поспех і багацце, з прычыны мачыхі (нейкай непрыемнасці, мачыха заўсёды абазначае непрыемнасць) пачынае мутнець і цямнець, паяўляюцца трэшчыны. Добра падумайце, перш чым зрабіць выбар і рашыцеся на сур'ёзны крок, да аднаго з якіх належыць шлюб.*

**Астрон**



## ПАД ЧАРАМ БЕЛАВЕЖЫ

Карцінка пахне Белавежай. Невыпадкова. Гэта Белавежская вуліца ў Вроцлаве. Ці назвалі яе так вроцлаўскія белавежцы, нашаму рэпарцёру не ўдалося высветліць, хоць у першым доме і знайшоў ён земляка доктара Аляксандра Стасюка. Аднак няма сумнення, хросны быў пад чарам нашай лясной жамчужыны.

Фота **В. Рудчыка**




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК і З'ЯСі

### ЦІ ЎМЕЕШ ВАРЫЦЬ БУЛЁН

Кажуць, што не трэба вялікіх умеласцей, каб зварыць булён. А ўсё ж, каб ён быў смачны, араматны і празрысты, трэба неабходна выканаць некалькі падставовых умоў.

Перш за ўсё, якое выбраць мяса? Найлепш з маладой ялавічыны, светлачырвонага колеру, са светлым лоем, з тлушчавымі жылкамі. Мяса заліваем заўсёды х а л о д н а й вадой. Аднак, калі мы хочам атрымаць смачнейшае мяса, якое будзе выступаць як самастойная страва, заліваем тады мяса гарачай вадой. Хаця булён будзе менш насычаны, затое мяса будзе больш сочнае і смачнае.

А вось прапорцыя на добры, моцны булён:

1 кг ялавічыны з косткай, 1 пятрушка, 2–3 кавалкі сэлера, 3 морквіны, 1 пор, чвэртка валошскай капусты, 1 цыбуліна, падпечаная на сухой патэльні, 3-4 зерні перцу, соль і пучок зялёнай пятрушкі.

Спаласнутае мяса заліць у каструльцы 3 літрамі халоднай вады і паставіць на агні. Як толькі ўбачым, што булён закіпіць, зняць з яго пену (робім гэта, аднак толькі тады, калі вельмі нам залежыць на тым, каб булён быў празрысты, паколькі так званая пена — гэта каштоўны складнік мяса — бялок і, уласна кажучы, не варта яго адкідаць). Калі булён закіпіць, дадаем да яго спаласнутую і ачышчаную гародніну, падпечаную цыбуліну, перац і соль (капусту дадаем праз гадзіну), накрываем каструлю і варым на невялікім агні каля трох гадзін. Перад падачай булёну на стол вымаем з яго моркву, рэжам яе скрылёчкамі, кладзем на талеркі разам са звараным асобна рысам, макаронам ці французскімі клёцкамі, заліваем працэджаным, вельмі гарачым булёнам і ўсыпаем дробна нарэзаную зялёную пятрушку.

Многія гаспадыні сцвярджаюць, што булён з марожанага мяса не смачны. А трэба сказаць, што, можа, і сапраўды ён крыху менш празрысты, аднак таксама добры і араматны. Трэба аднак пры гэтым памятаць, што марожанага мяса не трэба перад варкай размарожваць. Спаласнуўшы адразу яго халоднай вадой, трэба заліць зноў жа халоднай вадой і варыць крыху даўжэй, паколькі трэба далічыць час на павольнае размаражэнне мяса. У булён, які мы варым з марожанага мяса, варта дадаць у канцы варкі 1-2 спецыяльныя булённыя косткі.

Што рабіць з мясам, якое варыцца ў булёне? Зразумела, можна яго з'есці разам з супам. Можна, аднак, выкарыстаць яго на іншыя цікавыя стравы. Можна зрабіць з яго, напрыклад, піражкі, фарш, розныя запяканкі з макаронам, бульбай ці з іншай гароднінай.

**Гаспадыня**




Як і пярэднія хлопцы, Цімошкін стараўся сігаць хутчэй і ўсё ж адставаў, а яны, занятыя размовамі, здаецца, не бачылі таго. Праўда, ён разумеў, што ісці трэба хутка, бо калі яны не выбяруцца да світання, дык заўтра ім будзе кепска. Аднак ад усведамлення гэтага яму не было лягчэй. Нейкае, не акрэсленае яшчэ, трывожнае падымалася ўнутры ў хлопца, і думалася, што ўсё тое прынёс з сабою гэты вось пісар Блішчынскі.

Часта здараецца на вайне, што гіне самы лепшы, самы смелы і самы таварыскі хлопец, а якога сварліўца, сабелюбца ці злыдня не бярэ ні куля, ні якая хвароба. Так сталася і з яго сябрамі. Што іх было — сціплых, цудоўных, з якімі праваявалі яны два партызанскія гады, але вось у блакаду, на парозе запаветнага вызвалення, у некалькі дзён адзін за адным пагінулі яны — найлепшыя яго хлопцы. А Блішчынскі выжыў. Ён таксама ў той час быў з імі ў лесе, і не сказаць, што хаваўся — схавацца там не было як, — проста яму шанцавала. І пасля, калі яны пайшлі ў войска, з іншымі, куды лепшымі і даражэйшымі, яго, можа назаўжды, разлучыў бязлітасны вайсковы лёс, а з гэтым вось давялося разам трапіць у полк, і цяпер ён рукой падаць — побач.

Цімошкін не адразу зразумеў яго, усё думаў: можа ён здаецца такім нягожым круцялём-чалавекам; а на справе можа і ніштаваты хлапец. Кепска неяк уладкавана ў жыцці, што ўсё — і благое і добрае — пазнаецца часам праз боль няўдач і памылак. Калі побач няма разумнага, добрага сябра, першыя гады твайго самастойнага жыцця — як тыя першыя крокі ў маленстве — багаты на штурхялі і спатыканні.

Некалі хлопцы жылі ў адной вёсцы. Іхнія хаты не тое, каб былі побач, і гады іх выпалі не такія ўжо блізкія (калі Цімошкін пайшоў у першы клас, Блішчынскі вучыўся ў чацвёртым), але ў той маленькай вёсачцы дзяцей было небагата, і малыя сяброў сабе не выбіралі. Таму ад ранняга дзяцінства Валодзя з Грышкам мусілі вадзіць дружбу — разам дурэлі, пасвілі Грышкавых гусей, бадзяліся ўлетку па лесе, а ўзімку за тры кіламетры хадзілі ў мястэчковую школу. Цімошкін, як маладзейшы, ва ўсім цягнуўся за Грышкам і стараўся, чым мог, дагадзіць сябру, быў адданы і шчыры: той жа часам не дужа шанаваў іхняе дружбы і тым прычыніў нямала крыўды Цімошкіну. Самы апошні і самы незабыўны выпадак і цяпер яшчэ жыва помніцца, прыкрасцю напаўняючы пачуццё.

...Тое сталася ў адну з даўніх даваенных зім. Цімошкін вучыўся тады ў шостым класе, Грышка хадзіў у дзявяты. Вучыўся Блішчынскі добра, лічыўся актывістам усіх школьных спраў, быў членам вучкома і незадоўга перад тым уступіў у камсамол. На сходах ці мітынгах ён часта выступаў „ад імя школьнікаў“ і палка чытаў з паперкі загадзя складзеныя прамовы. У ліку яго сябрукоў у той час з'явіліся болей дарослыя мястэчковыя хлопцы, з імі ён вадзіў шмат якія свае пасталелыя справы, і іхняя дружба з Цімошкіным ужо ледзьве ліпела. Цімошкін разумеў, што рабіўся непатрэбны яму, і дужа сабой не набіваўся, толькі ў школу яны хадзілі ўсё ж разам. Звычайна Цімошкін заходзіў да яго ўранку, чакаў, пакуль ён прыбярэцца, паснедае, і тады наўпрасткі, цераз замерзлае балота, яны ішлі ў мястэчка.

Аднойчы, перайшоўшы ўжо тую балацявіну, яны выбраліся на добра ўезджаны санямі гасцінец і паціху ішлі сабе па саннай дарозе. І вось каля адзінокай прыдарожнай вярбы Цімошкін наступіў на якісь кашалёк. Перад тым іх абмінула двое саней з незнаёмымі людзьмі, што ехалі пэўна на кірмаш у мястэчка. Знаходка, вядома, іх зацікавіла, у кашальку аказаўся пашпарт, нейкія паперы, пяцьдзесят рублёў грошай. На хаду перагледзеўшы гэта, Грышка сунуў кашалёк у кішэню. Цімошкін сказаў, што трэба занесці яго ў міліцыю, або аддаць ў настаўніцкую, але Грышка на тое толькі засмяяўся і пакпіў над наіўнасцю сябра. На вялікім перапынку ён з таямнічым выглядам паклікаў Цімошкіна з школы і завёў яго ў краму. Там Грышка купіў цукерак, папярос, даў меншаму сябру пяць рублёў грошай і сказаў, што, каб усё было шыта-крыта, дакументы трэба спаліць. У Цімошкіна тады немаведама што рабілася на душы, — ён і баяўся і ненавідзеў сябе і Грышку, але

